# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 21 (1619) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 24 МАЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Марыя Корсак. З беларускага цыкла. Фота З. Таргоўскага.




Уладзімір Турковіч праславіўся на ўсю Беласточчыну высокімі ўраджаямі збожжа. Даўно ўжо ён пераступіў мяжу 60-ці цэнтнераў з аднаго гектара.

Жыве ён у мястэчку Боцькі. Аб гэтым ведаў я з восені мінулага года, калі Ваяводскі асяродак сельскагаспадарчага прагрэсу на сельскагаспадарчай выстаўцы, наладжанай у Беластоку, рэкамендаваў вынікі Уладзіміра Турковіча ўвазе іншых сялян. Людзі з недаверам ды іранічнай усмешкай знаёміліся з паказчыкамі па ўраджайнасці, якіх дабіўся ён у сваёй зусім тыповай гаспадарцы. „Папера ўсё стрымае!" — чуліся шэпты ў натоўпе наведвальнікаў выстаўкі, дзе ВОПР меў свой асобны павільён.

Шчыра кажучы, я таксама з нейкім унутраным скептыцызмам успрыняў тады паказчыкі па ўраджайнасці, дэманстраваныя ВОПРам. Бо як без засцярог успрыняць паведамленне, што сярод беластоцкіх сялян жывуць гаспадары, якія дабіліся ўжо ўраджаю, напрыклад, пшаніцы, вышэйшага за 80 цэнтнераў з кожнага гектара! З другога боку, за гэтым паведамленнем стаяў аўтарытэт важнай установы.

*

І тады я рашыў: трэба наведаць Уладзіміра Турковіча ў яго родным гняздзе. Пабываць, аднак, у Боцьках давялося мне толькі пад канец сакавіка г.г., калі зямля яшчэ спакойна адпачывала пад тоўстым покрывам снегу. Я разлічваў на тое, што ў такую пару года гаспадар будзе болей свабодны і знойдзе для мяне якую-небудзь гадзінку часу, каб спакойна, не спяшаючыся, пагутарыць аб асноўнай праблеме: як дабіцца такога высокага ўраджаю і ці гэта аплочваецца.

На адной з пабочных вуліц Боцькаў пабачыў я найперш тыповы двухпавярховы (партэр і паверх) мураваны асабняк за жалезнай агароджай, з уездам у гараж, уладкаваным у прызямельным (пад партэрам) паверсе гэтага дома, дзе таксама змяшчаецца кухня і гаспадарчая частка.

Далей, за хатай, на невялікім панадворку, размясціліся шматлікія сучасныя сельскагаспадарчыя машыны, сярод якіх асабліва вылучаліся: трактар савецкай прадукцыі, збожжавы і бульбяны камбайны.

І першая думка: які капітал, колькі мільёнаў злотых выдаткаваў гаспадар на гэтую сельскагаспадарчую тэхніку, якім цудам раздабыў ён столькі грошай?

Уладзімір Турковіч разам са сваім старэнькім бацькам Аляксандрам корпаўся ля трактара.

— Ці штосьці папсавалася? — пацікавіўся я, каб неяк распачаць размову.

— Не, еду ў Орлю за часткай да гэтага камбайна, — кіўнуў ён галавою ўбок чырвонага аграмаднага „Бізона-супер". — Патрэбны будзе дадатковы акумулятар. Вось і мяркуем з бацькам, як яго ўмацаваць, каб не згубіўся па дарозе...

Мароз шчыпаў за шчокі, пальцы ліплі да халоднага жалеза, а ў рукавіцах цяжка вязаць вузлы. Уладзімір Турковіч падзьмухаў на пальцы і далей тоўстай вяроўкай мацаваў акумулятар. Спяшаўся.

— Бачу, няма вам спакою нават у зімовы час, — заўважыў я.

— На высокі ўраджай, пане рэдактар, гаспадар працуе круглы год, — адказаў гэты майстар ураджайнасці і дапытліва паглядзеў на мяне. — А вы ў якой справе? — запытаў, не спыняючы занятку.

Я коратка паясніў яму сваю журналісцкую цікавасць.

— Прыдзецца вам пачакаць да вечара, да майго вяртання з Орлі.

*

Пад вечар, калі я паўторна

(Працяг на стар. 4)

## МАЦІ

Мама! — гэта першае слова, якому мы навучыліся ў дзяцінстве. І колькі за ім бачым дабрыні і ласкі сардэчнай, ахвярнасці! Нездарма ж напісана яшчэ ў Старым Запавеце, што тых, хто брыдка адносіўся да маці і бацькі, хто ганьбіў іх, дык такога забівалі людзі камянямі. Мы ўсе павінны даражыць сваімі бацькамі не толькі таму, што інакш гэта непрыстойна чалавеку, калі ён чалавекам хоча звацца. Сям'я — фундамент усяго, без добрай сям'і не можа быць добрых людзей, а без добрых людзей, натуральна, немагчымае добрае грамадства. Таму інтарэсы сям'і маюць цяпер такі высокі ранг, гэта інтарэсы дзяржаўнага значэння.

Мая маці сваё дзяцінства і маладосць пражыла вельмі цяжка, была круглаю сіратою і сваіх бацькоў амаль не памятала. Прыгарнулі яе да сябе адны добрыя людзі, але ўсё ж гэта не былі сардэчна свае. Была яна і ў тым „бежанстве". Жыла яна там недзе каля Волгі, у Саратаўскай губерні. Пасля часта расказвала нам пра дабрыню рускіх, пра іхнюю спагадлівасць ды няскупасць. Калі вярнулася сюды, у сваё роднае старонне беларускае — на голад і агульную нястачу. Зрэшты, каму сірата была патрэбна?... Пайшла служыць парабчанкаю да багатых гаспадароў у Існок, а прабыла там сем гадоў. Працавала за адну ежу і вопратку. Нам гэта цяпер нават цяжка і падумаць, каб хто знайшоўся такі, што захацеў бы працаваць на гаспадарцы за міску стравы і сякую-такую адзежыну!

Калі маці мая выйшла замуж, дык трэба было будавацца, ставіць сабе хату і ўсё іншае. А гэта ў даваеннай Польшчы не было гэтак проста: будаванне паўжыцця займала і апошні кавалак хлеба трэба было ад вуснаў адняць. У вайну яны пагарэлі. Пасля вайны — ізноў было тое будаванне, але ўжо шмат лягчэй, бо ў новы час. Пры маёй гэта ўжо было памяці. Жылі мы, як і ўсе — то лепей, то горш. Як гэта на гаспадарцы.

Я, ажаніўшыся, жыў з бацькамі дванаццаць гадоў. Вядома, таксама ўсяляк бывала між намі. Былі і сваркі, бо мая маці была раптоўная, затое злосць хутка ад яе адлягала і была добрай душы чалавекам. Мая жонка, Аня, аніякай спрэчкі, як кажуць у нас, не ставіла на ногі. І я. Любілі мы маці, і нашы дзеці любілі сваю бабулю. Затым мы, маладыя, аддзяліліся, я па-

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 3)




каў“! Ён жа гатоў смяяцца проста ў вочы маёй жонцы і падобным ёй работнікам асветы і культуры. Маладыя людзі не хочуць ісці далей вучыцца, бо нашто ім усе гэтыя палітэхнікі.

Анахранізм думкі здараецца і ў публікацыях „Нівы“ нашай. Нядаўна чытаю я ў дзядзькі Віктара Рудчыка такую вось „жамчужынку неразумнасці“: *„...у нас ніхто не падумаў, каб нашых ліцэістаў хаця раз у тыдзень заахвоціць да карыснай і павучальнай працы“.* Гэта ў дзесятым нумары за гэты год.

Ой, дзядзька ты, Рудчык! А можа і добра, што ніхто яшчэ не падумаў, што навука ў ліцэі — гэта некарысная праца?

Той жа Рудчык цікава пісаў пра партызанаў, але калі бярэцца ён за дыдактыку, дык бяда і годзе! Ідучы далей за думкамі Рудчыка можна дагаварыцца і да такога, што школы, ліцэі тыя, — гэта нейкія тлумы гультаёў, дармаедаў, якіх невядома нашто трымае дзяржава, бацькі. Яшчэ трохі, і скажам: на хваробу нам тая „Ніва“, хлеба-мяса яна не дае, плаціць за яе трэба, замест таго, каб задарма раздавалі на пошце ці ў кіёсках. Так думаючы, мы апынімся на працюткай дарозе да непісьменнасці, цемры і забабонаў, вернемся да часоў нашых прадзедаў, на самы ўспамін лёсу якіх у холад кідае! Кожны, хто ў полі не робіць ці малатком не грукае, — гэта паразіт і дармаед, непатрэбшчына людская? Такія адчуванні часам скоўваюць і мяне самога, заўважаючы, як адносіцца да мяне мой сусед, мускулісты стояр. І таму, калі Мікалай Панфілюк надалей будзе пісаць у „Ніве“ пра „малаадукаваных інжынераў“, якія не ведаюць, што гэта такое хадзіць за плугам, або пацець з рыдлёўкаю ў мазолістых далонях, я перастану чытаць яго тыя артыкулы! Панфілюк хоча, каб свет пакаціўся назад, і каб паламаў машыны і паліў кніжкі, ці як? Не буду чытаць Панфілюка, так як перастаў я чытаць Аўрору, якая да таго ж разбэсцілася на старонках „Нівы“, што бярэцца павучаць мяне, з кім я павінен спаць, што я павінен піць, каго я павінен любіць, а каго не любіць, і гэтак далей. Гэта ж, выбачайце, дыктатура нейкая, ураўнілаўка пад адзін гэбель.

Не працай прымітыўнаю мы вылезем з крызісу, але новымі тэхналогіямі. Гляньце самі: нашы прашчуры сотні гадоў, тысячагоддзі гаравалі па-быдлячаму і што яны мелі за тое? Ад голаду паміралі! А за апошнія сто гадоў свет як жа хутка змяніўся на лепшае, дзякуючы навуцы і тэхніцы. Сёння нават смешным сталася гаварыць пра галодную смерць. Без навукі няма лепшага жыцця і таму вельмі непакоіць мяне тое, што навука ў такой непашане ды пагардзе. Цаніць вучоных — гэта не тое самае, што рабіць на гультаёў!

**М. Махнацкі**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ




*Стары Беласток. Вуліца Мазавецкая. Мал. Уладзіслава Петрука.*

(Працяг са стар. 1)

### МАЦІ

будаваў мураванку праз вуліцу. Бацькі нам дапамагалі.

Занядужала маці неяк падвесну. Прапала ў ёй тая даўняя рухавасць, мацата ў ёй прапала. Пачала паміраць яна шостага верасня. А я тады акурат быў на пошце, як жонка, Аня, пазваніла мне пра гэта. У маім нутры ўсё роўна быццам бы штэ абарвалася. „Гэта ўжо будзе канец“, — падумаў я. Прыехаўшая хуткая дапамога не хацела браць яе ў бальніцу. Лекар тлумачыў, што можа памерці яна ў дарозе, так — што лепей няхай дома будзе, на доглядзе мясцовага лекара і медсястры. Маці, сапраўды, як бы палепшала. Аня вельмі апекавалася ёю. Аднак, з такое хваробы, якая была ў маці, мала хто выходзіць. Тым болей, у такім узросце. Яна загасала нам проста ў вачах!

Праз чатыры тыдні прыступ кровазліцця ў маці паўтарыўся і яна ўжо не ўставала з пасцелі. У бяспамяцці яна вымаўляла імёны сваіх бацькоў, імя сваёй дочанькі, якая памерла яшчэ малою, імя ўнучка Віці... Мы былі каля яе, нават у сваім доме не начавалі. Памерла дванаццатага кастрычніка, раніцай. ціха і супакоена, пражыўшы сваё жыццё цяжка і дастойна

**М. Панфілюк**

## БЕЛАСТОК-ГРОДНА-ВІЛЬНЮС

(Працяг са стар. 3)

спраў штодзённага жыцця. Для моладзі падрыхтоўваецца на 1988 г. адкрыццё маршрута „Аўтобуса дружбы“ шляхамі змаганняў савецкіх і польскіх воінаў. Радныя Беластоцкай ваяводскай рады нарадовай і Гродзенскага абласнога савета падчас узаемнага наведання пазнаёмяцца з вырашэннем шэрагу гаспадарчых і грамадскіх праблем у суседзяў. Двухтыднёвымі практычнымі заняткамі абмяняюцца групы лекараў з Беластоцкай вояводскай бальніцы імя Снядэцкіх і Гродзенскай абласной бальніцы. Значна расшыраецца абмен вучонымі і студэнцкімі групамі паміж вышэйшымі школамі Беластока, Мінска, Гродна, Вільнюса і Каўнаса. Не ўступае ім памерамі абмен паміж нашымі тэатрамі, музеямі, бібліятэкамі, рэдакцыямі і іншымі культурна-асветнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі. Прадбачваецца, што сёлетнія вакацыі правядзе на Гродзеншчыне і Літве каля 400 вучняў з Беласточчыны і столькі ж савецкай моладзі будзе гасцяваць у лагерах адпачынку ў нас. Таксама значная колькасць савецкіх працоўных прыбудзе на адпачынак на Беласточчыну, а беластаччан будзе адпачываць на Літве і Гродзеншчыне.

Настаўнікі на змешаных польска-савецкіх семінарах будуць абменьвацца вопытам у справах дасканалення свае працы. У бягучым годзе 110, а ў будучым 150 спартсменаў з Гродзеншчыны і Літвы прыбудзе на Беласточчыну і столькі ж лепшых беластоцкіх спартсменаў паедзе на розыгрышы, трэніроўку і адпачынак да сваіх савецкіх сяброў. Расшыраць прыгранічнае супрацоўніцтва арганізацыі ветэранаў вайны, аховы прыроды і многія іншыя.

З усяго гэтага відаць, што прыгранічнае супрацоўніцтва паміж нашым рэгіёнам і суседнім Наднёманскім краем становіцца ўсё больш цікавым і плённым, карысным для абедзвюх нашых брацкіх краін.

**Мікола Гайдук**
Фота аўтара




(Працяг са стар. 1)

наведаў катэдж Турковічаў, гаспадара дома яшчэ не было. Яго жонка, пані Надзея, таксама нервавалася.

— Сёння такая галаледзіца на дарогах! Каб, не дай Бог, бяда якая не здарылася.

Яна паходзіць з суседняй вёскі Сабятын. Па адукацыі — тэхнік-аграном. 25 гадоў таму назад выйшла замуж за Уладзіміра Турковіча і засталася на гаспадарцы.

— Цяжкавата, але іншага жыцця для сябе я ўжо не пажадала б. На жаль, нашы дзеці гаспадаркі адракліся. Дачка — ветэрынар, ужо абсталявалася ў Беластоку, а сын таксама заяўляе, што не бачыць для сябе будучыні ў вёсцы.

— Нават у такой дасканала наладжанай гаспадарцы, пад дахам такога, багата абсталяванага дома?

Надзея Турковіч толькі ўздыхнула.

Першы раз я пабачыў яе на сходзе жанчын з Боцькаўскай гміны. Надзея Турковіч ужо трэцюю кадэнцыю як старшыня ладзіць і арганізуе дзейнасць гуртка вясковых гаспадынь у Боцьках.

Пакойчык на другім паверсе, дзе на нейкі час гаспадыня пакінула мяне аднаго, абсталяваны пад выгляд заможнага гарадскога салона. Мяккія, глыбокія крэслы, нізенькі столік, сучасная мэбля, бліскучы паркет, дарагі дыван... А на сцяне — маляваная рэпрадукцыя вядомай карціны „Дама з ласкай“.

— Гэта праца нашай дачкі Галіны, — паясняе маці.

Аказваецца, што пані ветэрынар праяўляе мастацкія зацікаўленні. Яе малюнкі ў многіх месцах упрыгожваюць прасторны бацькоўскі дом.



**Уладзімір Турковіч пастаянна заняты.**

*

Вярнуўся гаспадар. Пані На-

## ВЯСНА ІШЛА АД МАХНАТАГА

І хоць пачатак вясны ў нас быў халодны, то ў нашым стараберазоўскім клубе зрабілася як бы сапраўдная вясна, радасная і цёплая. Здарылася гэта ў суботу 25-га красавіка. Сыйшліся ў клуб гаспадары і гаспадыні, моладзь. Настрой быў добры, нягледзячы на стому штодзённай работаю на гаспадарцы. Гэтак было дзякуючы вучням махнацкай школы.

Усе людзі сабраліся, каб адсвяткаваць Першамай, свята працоўных, свята вясны, радасці. Свята працы і маладосці. На просценькай сцэне нашага клуба ўсё гэта і з'явілася. З'явілася і вясна, і радасць, і маладосць і сонца, якога так мала было. Хор вучняў учыніў цуд, нішто так не ўзвышае чалавека, не настройвае яго, як песня менавіта! Гэтым хорам надзвычайна кіруе настаўніца Аня Міранюк, а яе муж, Янка Міранюк, навучае беларускай мове ў школе. З такім хорам не сорамна было б паказацца і на большай, на ваяводскай сцэне. Настаўніца Аня не шкадуе сваіх сілаў і таленту, каб хор быў, як след. Спявалі беларускія песні сардэчныя, і польскія і рускія. Гэта песні вясны, песні радасці, шчаслівасці. Песні палявых кветак, самых цудоўных кветак свету. Песні прыгожага, мірнага жыцця. Песні добрай працы сялян і рабочых.

Слухалася хору і не хацелася ісці дахаты. Шкада, што ў вёсцы так мала бывае падобных імпрэзаў. Просім Міранюкоў яшчэ хоць калі наведацца да нас са сваім прыгожым хорыкам. Нехта сказаў паўжартам: жаль, што Першамай толькі адзін у год, весялей было б у нас...

Наша Беларускае таварыства неяк забывае пра вёску, рэдка чуваць пра які-небудзь канцэрт. Беларусы нашы хочуць беларускага больш, гэта іх натуральнае жаданне і права. А дзеткам махнацкім дзякуем, і апякунам іх яшчэ раз за тое, што крыху сонца і радасці далі нам тут у той памятны першамайскі вечар у нашым клубе.

**Г. Мароз**

# АПЫТАЛЬНІК

Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ і рэдакцыя „Нівы" ветліва просяць выпаўніць апытальную анкету і выслаць яе да 7 чэрвеня 1987 г. па адрасу: Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, skrytka pocztowa 327.

У пытаннях 1, 2, 4, 5, 6, 8, 10 трэба толькі падкрэсліць праўдзівыя адказы, а ў пытаннях 3, 4, 5, 7, 9, 11, 12 дапісаць вашыя ацэнкі або пажаданні. Анкетныя адказы будуць выкарыстаны ў дасканаленні нашага часопіса.

1. „Ніву": купляю, выпісваю, атрымліваю ва ўстановах.
2. „Ніву": чытаю рэдка, чытаю кожны нумар, не чытаю, але цікаўлюся яе зместам.
3. Каго з рэдакцыі „Нівы":
   — ведаеце асабіста . . . . . . . . . . . . .
   — ведаеце толькі з напісанага ім . . . . . . . . . .
   — мелі сустрэчы або аказвалі дапамогу ў збіранні вестак у газету . . . . . . . . . . . . . . .
4. Які са сталых раздзелаў „Нівы" вам падабаецца:
   На мяжы, Весткі з БССР, Адгалоскі, Фальклор, Сардэчныя тайны, Што-дзе-калі, „Ніўка" або іншыя. . . . . .
5. Як вы ацэньваеце Літаратурную старонку „Белавежа":
   --- паэзію: вельмі добра, добра, пасрэдна, дрэнна;
   — прозу: вельмі добра, добра, пасрэдна, дрэнна (дапішыце: чаму?) . . . . . . . . . . . . . . .
   . . . . . . . . . . . . . . . . .
6. „Зорку" вашы дзеці: чытаюць ахвотна, не чытаюць. Хацелі б больш: паэзіі, казак, адгаданак, апавяданняў, ілюстрацый.
7. Якія артыкулы вам запамяталіся найбольш . . . . .
   . . . . . . . . . . . . . . . . .
8. Чытаеце: усю „Ніву", толькі цікавячыя вас раздзелы.
9. Назавіце артыкулы, якія вам не спадабаліся . . . . .
   . . . . . . . . . . . . . . . . .
10. Ці можаце сцвердзіць, што „Ніва": узбагаціла вашыя веды, навучыла вас чытаць па-беларуску, узбудзіла нацыянальную свядомасць, не аказала ніякага ўздзеяння, выклікала зацікаўленне беларускай праблематыкай у вашым асяроддзі.
11. Ці падабаецца вам графіка „Нівы" . . . . . . . .
12. Што трэба зрабіць, каб „Ніва" выклікала шырэйшае зацікаўленне? . . . . . . . . . . . . . . .
    . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ваш век, прафесія і месца жыхарства (прозвішча можаце не падаваць) . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .

(Працяг са стар. 2)

### VI ДНІ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ

Журы, як і раней, будзе ўзначальваць праф. Рамуальд Твардоўскі.

Мастацкі ўзровень Дзён будзе, несумненна, вельмі высокі і можна толькі зайздросціць гайнаўчанам, што змогуць праслухаць столькі выдатных хораў.

Ёсць прапанова, каб хоры-лаўрэаты выступілі з канцэртамі, апрача Гайнаўкі і Беластока, таксама ў Бельску і ў Варшаве. Напэўна варта выкарыстаць існуючыя шанцы. Слабых хораў VI дні царкоўнай музыкі не маюць. Кожнае выступленне — гэта свята песні і духоўнае ўзбагачэнне слухача. **(вв)**




## БАГАТЫЯ СМЕТНІКІ БЕДНАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Людзі ўвесну прыбіраюць гарышчы, каморы, панадворкі. Выносяць усю непатрэбшчыну, валяць на вазы ды вывозяць абы-куды, на сметнікі. Колькі ўсяго дабра тады прападае! Не кажучы пра бутэлькі, на гэткіх сметніках магчыма ўбачыць нават „версалькі" паламаныя. Кожны, хто хоць трохі майстраваты, можа знайсці нешта карыснае сабе. А людзі нашы дзіўныя, наракаюць, што ўсё дарагое, а не ўмеюць папсаванай рэчы якой парамантаваць, каб ім яшчэ паслужыла. Даволі паглядзець, колькі матацыклаў заезджаных, кавалерскіх, стаіць па хлеўчыках усякіх, або і проста пад паветкамі іржавеюць...

Аднойчы патрэбны былі мне бутэлькі і пайшла я на сметнік навыбіраць іх там. Ажно бачу, нейкі мужчына прыйшоў таксама і выцягнуў з-пад наваленага даволі някепскую міску, якую панёс на свой воз, і вярнуўся ды выграб нейкую частку да матацыкліка „Камар". За бутэлькі плацяць на скупцы і па дзесяць злоты, а ляжыць іх на сметніках на тысячы цэлыя! Можна сказаць: грошы ляжаць, толькі нахіліцца ды падняць іх. Добрыя кавалкі дошак ляжаць, новыя, камусьці не спатрэбіліся. Глядзіш на наш сметнік і думаеш сабе: які ж марнатраўны наш народ! Чаму ён такі? Багаццем захліснуўся? Не дарос да таго, каб багацце шанаваць? Відаць, так. Мы не дараслі багата жыць, марнуем шанцы свае.

Як звычайныя людзі, так і фірмы вывальваюць на тыя сметнікі ўсё разам; і благое, і добрае. І нікому яксьці сэрца не баліць ад таго. Нядаўна я прыглядзелася да яшчэ аднаго сметніка ў нашай ваколіцы. Гэта быў сметнік, на якім, калі хто будуецца, усё можа знайсці на салідны падмурак пад хату ці муравянку. Там і кавалкі жалезабетону, і аркушы бляхі, і кавалкі сталі, і каменні. Дзяржава наша бедная, але сметнікі ў ёй затое багатыя. Як доўга так быць можа, каб грамадзяне дзяржавы жылі лепей, чымсьці сама дзяржава?

**Аўрора**

дзя пабегла за гарачым чаем, каб мог ён разагрэцца з дарогі.

І зараз завязалася ў нас дзелавая гутарка.

— Высокіх паказчыкаў па ўраджайнасці, — адзначыў У. Турковіч, — дабіўся я дзякуючы прымяненню інтэнсіўнай тэхналогіі вырошчвання збожжавых культур.

І адразу ўзнікла пытанне: што такое гэтая інтэнсіўная тэхналогія?

Больш за гадзіну часу спатрэбілася майстру ўраджайнасці, каб хаця павярхоўна паясніць мне асновы гэтай інтэнсіўнай тэхналогіі. На жаль, у двух сказах цяжка гэта перадаць. Справа ў асноўным зводзіцца да вельмі дбайнай падрыхтоўкі пасяўной плошчы, спецыяльнага метаду абсявання поля (з праязнымі палосамі) і кантраляванага падкормлівання раслін у час іх вегетацыі — ад усходаў да каласэння.

— Усё гэта патрабуе дадатковай працы і большай колькасці дарагіх мінеральных угнаенняў. Ці гэта вам аплочваецца?

— На тое я і прымяняю інтэнсіўную тэхналогію, што яна вельмі ж аплочваецца, — з пераканаўннем сцвярджае майстар ураджайнасці, а тыя мільёны, якія ўкладае ён у сваю гаспадарку, наглядна пацвярджаюць яго словы.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



Дом Надзеі і Уладзіміра Турковічаў.

# ПАРНАСІК
чытальніцкая літстудыя на негарантаваных палях

## РАЎНІНА

Раўніна — ты, як мая душа!
Раўніна — ты маё поле!
Вёскі вакол каляровыя,
Зямля вакол духмяная.

Па раўніне ідзе
Залацістае сонца,
Раўніну палівае
Вясенні дождж,
Ох, раўніна — ты, як родная маці!

**Валянціна Дзенісюк**
Плёскі

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

# АЎКЦЫЁН У ПОЗНАНІ

**У днях 2-4 чэрвеня г.г. у зале Дома культуры ў Познані (вул. Арміі Чырвонай) адбудзецца XVII аўкцыён рэдкіх кніжак, якіх шукаюць людзі. Ніжэй падаем — паводле аўкцыённага каталога — загалоўкі тых выданняў, якія могуць зацікавіць таксама чытачоў нашага тыднёвіка.**

Poz. 85 — Boniecki A., Poczet rodów w Wielkim Ksiestwie Litewskim w XV i XVI wieku, W-wa 1887. Cena wywoławcza 40 tys. zł. (!)

Poz. 117 — Brückner A., Starożytna Litwa: ludy i bogi, W-wa 1904. C.w. 5 tys. zł.

Poz. 229 — (Danielewski I.), O Unii Lubelskiej, Chełmno (1869). C.w. 400 zł.

Poz. 333 — (Giżycki J.M.), Wiadomości o Dominikanach prowincyi litewskiej. Cz. 1, Kraków 1917. C.w. 1 tys. zł.

Poz. 410 — Iwaszkiewicz Janusz, Litwa w roku 1812, Kraków 1912. C.w. 1 tys. zł.

Poz. 550 — Kotłubaj E., Życie Janusza Radziwiłła..., Wilno i Witebsk 1859. C.w. 3 tys. zł. (Uwaga! grzbiet i str. 189—194 uszkodzone).

Poz. 608 — Kubicki P., Dwa odczyty, (Odczyt drugi: O języku rosyjskim w nabożeństwie dodatkowym w kościele rz.-kat. na obszarach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego po roku 1863), Sandomierz 1936. C.w. 1,4 tys. zł.

Poz. 661 — Limanowski E., Dzieje Litwy, W-wa 1917. C.w. 400 zł.

Poz. 688 — Łowmiański H., Rys historyczny województwa nowogrodzkiego w jego dzisiejszych granicach (do r. 1795), Wilno 1935. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 692 — (Łubieńska J.), Podlaskie „Hospody pomyłuj" 1872—1905: kronika 33 lat prześladowania Unii, przez naocznego świadka, Kraków 1908 C.w. 1 tys. zł.

Poz. 862 — Ormicki W., Życie gospodarcze Kresów Wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej, Kraków 1929, C.w. 1,6 tys. zł.

Poz. 886 — Pamiatnaja knižka Wilenskoj gubernii na 1864 god, Wilno 1864. C.w. 1,2 tys. zł.

Poz. 913 — Pietkiewicz Cz.., Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego; materjały etnograficzne, W-wa 1938. C.w. 1,2 tys. zł.

Poz. 921 — Piskor T., Wyprawa Wileńska, W-wa 1919. C.w. 600 zł.

Poz. 990 — Pruszkowski J., Martyrologium czyli męczeństwo Unii S-tej na Podlasiu, Cz. 2: 1882—1921, Lublin 1922. C.w. 1,8 tys. zł.

Poz. 1004 — Przybylski S., Kresy wschodnie Rzeczypospolitej: opisy i obrazy przeszłości (Lwów 1927). C.w. 5 tys. zł.

Poz. 1301 — Wasilewski L., Kresy wschodnie: Litwa i Białoruś, Podlasie i Chełmszczyzna, Galicya wschodnia, Ukraina, W-wa 1917. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 1303 — (Wasilewski L.), Polska dla Polaków czy Polska dla wszystkich obywateli polskich? (Sprawa mniejszości narodowych w Polsce), W-wa (1924). C.w. 200 zł.

Poz. 1367 — Wysłouch S., Posługi komunikacyjne w miastach W.Ks. Litewskiego na prawie magdeburskim do połowy XVI w., Wilno 1936. C.w. 1,2 tys. zł.

Poz. 1407 — Zdański K., Przyczynki do dziejów powiatu brzesko-litewskiego i ziem nim objętych, W-wa 1936. C.w. 1 tys. zł.

Poz. 1433 — Żmigrodzka J., Nowogródek i okolice, Nowogródek 1927. C.w. 600 zł.

Poz. 1553 — Mościcki H., Powstanie 1831 roku na Litwie: Wspomnienia uczestników, Wilno 1931. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 1582 — Potocki L., Wspomnienia o Swisłoczy Tyszkiewiczowskiej, Dereczynie i Różanie, Wilno (1910). C.w. 800 zł.

Poz. 1615 — Urban J., Wśród Unitów na Podlasiu; pamiątki z wycieczek misyjnych, Kraków 1923. C.w. 400 zł.

Poz. 1683 — Jakubowski J., Mapa Wielkiego Księstwa Litewskiego w połowie XVI w., Cz. 1: Północna, Skala 1:1.600.000, Kraków 1928. C.w. 400 zł.

**Пётр Байко**

# БЕЛАСТОЦКАЯ НАВУКА ПАЧЫНАЛАСЯ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Усе ў Польшчы, і не толькі ў Польшчы, ведаюць пра Белавежу, як пра турысцкі цэнтр. Але рэдка даходзіць да свядомасці звычайнага чалавека тое, што Белавежа — гэта таксама і навуковы цэнтр. Зусім невялікае кола людзей ведае, што першыя навуковыя даследванні ў Белавежы былі праведзены ўжо ў канцы васемнаццатага стагоддзя. Зразумела, што навуковыя ўстановы ў Белавежы былі заснаваны значна пазней. Пры гэтым трэба тут сказаць, што ў беластоцкім рэгіёне самая першая навуковая ўстанова была заснавана менавіта ў сэрцы Белавежскай пушчы. Адсюль пачалася навуковая дзейнасць на Беласточчыне. Здарылася гэта ў 1930 годзе. Я маю на ўвазе Інстытут даследвання лясніцтва. Наступныя навуковыя ўстановы былі арганізаваны ў пачатку пяцідзесятых гадоў — Белавежская геабатанічная станцыя Варшаўскага універсітэта і станцыя даследванняў млекакормячых Польскай акадэміі навук. Невялікі навуковы асяродак мае таксама Белавежскі нацыянальны парк.

Апрача белавежскіх даследчыкаў, навуковую работу ў Белавежскай пушчы праводзяць вучоныя з каля сарака навуковых цэнтраў Польшчы. Прыязджаюць у Белавежскую пушчу дзеля стажу ці канкрэтных даследванняў таксама замежныя вучоныя, найчасцей з Савецкага Саюза, Злучаных Штатаў Амерыкі, Галандыі, Францыі і іншых дзяржаў.

Белавежскія вучоныя вядуць шырокія прыродазнаўчыя даследванні, накіраваныя на вывучэнне правоў функцыянавання прыроды, асабліва лесу. Разам з тым адбываюцца і рэгіянальныя даследванні, якія датычаць фізіяграфіі і аховы прыроды паўночна-ўсходняй часткі ПНР. Некаторыя праблемы гэтых даследаванняў датычаць тэрыторыі ўсяе дзяржавы, напрыклад, апрацоўка атласа геаграфіі дзікіх жывёлаў ці карты патэнцыяльнай расліннасці ды яе антрапагенічных пераўтварэнняў, што мае асноўнае значэнне для аховы і добраўпарадкавання прыродных рэсурсаў дзяржавы, а таксама ў кіраванні народнай гаспадаркай.

У навуковых установах Белавежы пастаянна працуе каля 160 асоб, у іх ліку 30 вучоных. Выдаюцца тры часопісы — „Акта тэрыялогіка", „Фітацэнозіс", „Нацыянальныя паркі і запаведнікі прыроды". Паступовa фармуюцца унікальная бібліятэка і навуковыя зборы. Напісаны шэраг манаграфій, налічваецца каля двух тысяч публікацыяў. За пасляваенныя гады ў гэтых установах атрымалі званне магістраў каля сямідзесяці асоб, а званні дактароў навук — каля сарака асоб. Адбылася абарона каля дзесяці дысертацый. Белавежскія навуковыя ўстановы наладжваюць студэнтам практычныя заняткі, праводзяць удасканальванне настаўніцкіх кадраў, рыхтуюць экскурсаводаў. Вучоныя аддаюць шмат сваіх сілаў грамадскім абавязкам у жыцці тутэйшай гміны. Яны праводзяць алімпіяду ведаў аб Белавежы і Белавежскай пушчы ў мясцовай пачатковай школе, выступаюць са шматлікімі дакладамі і папулярнымі лекцыямі. Выдаюць карты і даведнікі, кніжкі, якія папулярызуюць веды пра Белавежскую пушчу. Быў час, калі яны займаліся і вырабам навучальных дапаможнікаў школам у былым Гайнаўскім павеце.

Да ліку вядомых вучоных, якія жывуць і працуюць у Белавежы, належаць прафесары: Аляксандр У. Сакалоўскі, Януш Б. Фалінскі, Здзіслаў Пуцэк, дацэнт Крыстына Фалінская, дактары навук Чэслаў Аколаў, Анджэй Рупрэхт, Ежы Л. Альшэўскі, Малгажата і Збігнеў Красінскія, Амэлія Кавэцкая, Сімона Косак, Эльжбета Мальцан, Ежы М. Гутоўскі.

**Пётр Байко**



**Заняткі са студэнтамі ў Белавежскім нацыянальным парку праводзіць праф. Януш Б. Фалінскі. Фота — Ч. Аколаў.**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ




Нават непрыяцелі вялікага князя Гедыміна прызнавалі яго выдатныя асабістыя якасці. Аўтар рускага Васкрасенскага летапісу не без зайздрасці заўважыў, што Гедымін „быў мужам вельмі храбрым і вялікага розуму". І гэтая праўда пацвярджалася яго няспыннымі настойлівымі намаганнямі ўсялякімі спосабамі расшыраць межы і ўмацаваць унутрана Вялікае княства Літоўскае. Ён не сыходзіў з сядла, то адбіваючы амаль штогадовыя (часам і па некалькі ў год) крыжацкія рэйды-нашэсці з захаду, то пашыраючы ўладанні дзяржавы на поўначы, усходзе і поўдні, вызваляючы ад татарскай залежнасці суседнія ўсходнеславянскія землі.

Не прамінаў ён таксама нагоды залучыць шчодрыя пасагі за сваімі сынамі. Каля 1318 г. Гедымін жэніць сярэдняга сына Альгерда з Марыяй, княжной віцебскай, за якой у пасагу яе бацька, князь Яраслаў Васілевіч, аддаў цэлае сваё княства. Зрэшты, не меў іншага выхаду, бо сыноў у яго не было.

Урачыстасць адбывалася ў распісанай каляровымі фрэскамі і шчодра аздобленай іконамі ў багатых залатых і сярэбраных акладах мураванай з цесанага каменю і цэглы віцебскай Благавешчанскай царкве. Дваццацідвухгадовы Альгерд спачатку быў ахрышчаны, атрымаўшы імя Аляксей, а праз некалькі тыдняў ён, рослы і статны, са сваёй равесніцай, прыгожанькай княжной Марыяй, паважна крочылі за епіскапам вакол аналоя ў вянчальным урачыстым шэсці. Храм патанаў у пахучым фіміяме, звінелі вітражы ад гучнага „Ісаія, лікуй...", што лілося з хораў. І, хіба ж, у старэнькага князя Яраслава ў вачах сталі слёзы. Ці гэта былі слёзы роспачы апошняга пануючага з вялікіх Рагвалодавічаў, што Віцебскае княства — ягоная вотчына і дзедзіна — пераходзіць у чужое ўладанне? Затое, мабыць, Гедымін пазіраў на вянчанне з уласцівым яму дастойным спакоем, але па яго твары час ад часу прасмыкалася ледзь прыкметная ўсмешка задавальнення. Ці з таго, што ўсё ідзе па яго ж мыслі?

Гедымін усё ж не дапусціў да паніжэння свайго сына на ізгоя-прымака. Ён надзяліў Альгерда-Аляксея хоць і скрамней, чым Яраслаў Васілевіч дачку Марыю, але ж і не пусціў з пустымі рукамі — даў яму Крэўскае княства (на паўночным сумежжы сённяшніх Гродзенскай і Мінскай абласцей). Гэты бацькоўскі пасаг не быў выпадковы: старажытнае Крэва было сэрцам колішняй Нальшчанскай зямлі — адной з трох, з якіх у часы Міндоўга пачало расці Вялікае княства Літоўскае.

Не менш багата ажаніўся Гедымінаў меншы сын Любарт — яго жонкай стала невядомая дакладна па імю дачка князя луцкага Андрэя Юр'евіча і за ёю атрымаў ён заможнае Луцкае княства. Аднак гэтая жаніцьба дагэтуль засталася для гісторыкаў

 

# ВЫЙШАЎ З МОДЫ

(Працяг са стар. 3)

шасць людзей ацэньвае іншых паводле таго, што ў іх ёсць у кішэні, а не таго, якія яны — ў глыбіні душы, — з горыччу гаворыць Ірына.

У словах Юркі было таксама пачуццё своеасаблівай „справядлівасці": „У мяне ёсць грошы, а ў цябе — твае веды, з якіх ты нічога не маеш, бо няма ў цябе кемлівасці". Як я добра ведаю, Юрка, апрача сваіх даволі высокіх заробкаў, „доіць" фірму, як можа і што зможа (а такіх „юркаў" многа!) на другую зарплату. І цікава, што Юрка часам кажа: „Мы вас, дармаедаў (гэта значыць: непрадукцыйную сферу), кормім і апранаем!" Думаю, што такі тып чалавека не вырас толькі цяпер, на яму спрыяльнай глебе, а заўсёды траплялiся людзі, якія ўмелі толькі браць. Але ніколі яшчэ не было такіх кпінаў у жывыя вочы з людзей, якія трацяць лепшыя гады жыцця на здабыванне ведаў і грамадскую дзейнасць. Юрка насміхаецца з мяне: „Чаго ты бегаеш на тыя сходы і камітэты, і без цябе ўсё аформяць, гэта іх абавязак!"

Ці Юрка — тыповы прадстаўнік маладога рабочага? Не дай Божа! А які тыповы „студэнт", сярод якога распісалі мы анкету? Але ці гэта не выпадкова, што са старонак анкеты паказваецца ён. Толькі 15 чалавек пераламала лінію, вядучую ўніз, пад якой дрэмлюць масы, якія вучацца (і то не вельмі каб горача), мала цікавяцца жыццём асяроддзя, ад іншых (напрыклад, арганізацый) патрабуюць „доступу да..." „магчымасцей", „рэпрэзентацыі" (але сваіх сяброў-актывістаў патрапяць назваць „марыянеткамі"!). Вялікая група (большасць!) хацела б радыкальна абрэзаць праграму навучання. Філолаг хоча пазбыцца... лацінскай і царкоўнаславянскай моў, логікі, грамадскіх навук („на што яны мне будуць патрэбныя ў будучыні?" — цытата). Гісторыку кладзецца цяжарам дэмаграфія, статыстыка, сацыялогія! Гэта проста жахліва! Не менш спужаная, я схапілася за галаву, калі на лагеры-падрыхтоўцы дзеячоў ЗПС усіх беластоцкіх вышэйшых школ пачула, як сябры горача наракаюць на празмерную колькасць заняткаў па грамадска-палітычных прадметах (будучыя настаўнікі!). Ці хто каго сілай цягнуў у вышэйшую школу? Праўда, што асабліва на 1 і 2 курсах многа заняткаў, не толькі па прафесіянальных прадметах. Многа часу займае падрыхтоўка, напрыклад, па палітэканоміі, сацыялогіі, гісторыі філасофіі і паліталогіі. Але тут справа не ў праграме, а ў плане, распісанні заняткаў. Адным з выхадаў была б магчымасць выбару прадметаў гэтай групы. Думаю аднак, што лепей, каб будучы інтэлігент у час, калі ў яго найбольш магчымасцей пазнавання, па прычыне ёмістасці мозга, часу і сілы, спазнаў хаця часткова дасягненні навукі. Напэўна ніхто, хто праходзіць праграму „з большага" (а інакш нельга), бо яго гоняць тэрміны і мноства заняткаў, не авалодае сукупнасцю ведаў, але быў бы гэта пачатак самаадукавання і развіцця сваіх зацікаўленняў... Адна з маіх малодшых сябровак з польскай філалогіі, якой душа спявае ад жаваранкаў і іншых вясенніх подыхаў, і якая запісвае белым (вядома!) вершам станы сваёй душы — лічыць нізкім займацца такімі неістотнымі і мала паэтычнымі выдумкамі як сацыялогія, палітыка, не дай Божа — палітэканомія, а таксама педагогіка, апісальная і гістарычная граматыка. Забывае беднае дзіця, што пачало навуку на філалогіі, што значыць „любоў да кніжак", што вучыцца на гуманістычным факультэце. Не ўспамінайце ёй тут аб „сацыялістычным ідэале чалавека", бо ў вочы вам скажа, што вы — хворыя.

Колькі ж работы, сябры-студэнты! Кіньма гэтыя ўсе анкеты, усю работу для арганізацыі, для студэнтаў. Для каго ўсё гэта, гэтае паляпшанне свету? Заўсёды трапяцца людзі, якія будуць стукаць сабе ў лоб, калі ўбачаць забеганых дзівакоў. Якая нам пацеха, што гук з іх лабоў — як з пустое бочкі?

**Міра Лукша**

# ГРОДНА-РАВЕСНІК НОВАЙ ЕЎРОПЫ

(Працяг са стар. 2)

можна трапна акрэсліць выгляд тадышняга замка і быту ў ім. Вітаўтаў замак меў каменную канструкцыю, хоць сёе-тое ў ім будавалася яшчэ з дрэва. Ужывалася ўжо цэгла, а гэта вельмі важны паказчык цывілізацыйнага поступу ў гэтым нашым старонні.

Асобны перыяд у гісторыі гродзенскага замка — гэта часы польскага караля Стэфана Баторыя. Кароль змяніў характар замка, перабудаваў яго з абарончага ў рэзідэнцкі. Дзеля гэтага запрасіў ён у Гродна спецыялістаў палацавага будаўніцтва — італьянскіх архітэктараў і майстроў. Замак яны перабудавалі ў рэнесансавы. Перабудоўванне і разбудоўванне яго цягнулася нават у XVII ст.

Шмат новага і цікавага, больш дэталёвага можна было пачуць на гэтай сустрэчы ў Ленінградзе. Нямала дыскусіі сярод сабраных вучоных выклікалі знойдзеныя на гродзенскім замку даўнія грошы, манеты. Дзякуючы гэтым манетам даведваемся пра гандлёвыя сувязі колішняга Гродна з Польшчай, Балканамі, Руссю XI-XVII стагоддзяў. Беларускія вучоныя паведамілі ў Ленінградзе, што хутка будуць апублікаваны вынікі іх доследаў у Гродне, а знаходкі будуць паказаны на асобнай выстаўцы ў Гродзенскім Гістарычным музеі.

**А. Мірановіч**

# КРАЯВІД ПЕРАД ПАТОПАМ



На дне будучага Семяноўскага заліва. Фота Юркі Баброўскага.

вялікай загадкай. З беларускай „Хронікі літоўскай і жамойдскай" ды іншых крыніц вядома, што князь луцкі падчас паходу Гедыміна ў 1331 г. на Валынь страціў сваё княства і яго сталіцу Луцк і сам „уцёк аж у Бранск-Северскі да князя Рамана, зяця свайго". Але навесну наступнага года, калі Гедымін рушыў на Кіеў, ён далучыўся да аграмаднай татара-рускай арміі, якая спрабавала загарадзіць дарогу вялікаму князю літоўскаму. Падчас бітвы на рацэ Ірпень, усяго „тры мілі ад Кіева", як чытаем у той жа „Хроніцы": „князь луцкі, якому шло пра Луцкае княства, адкуль нядаўна быў выгнаны, адважней ад іншых наступаў на літву (г. зн. Гедымінавых вояў — М.Г.) разам з Алегам Пераяслаўскім і так у біцвеннай сумятні абодва былі забіты". Значыць, Луцкае княства дасталося Гедыміну як ваенная здабыча. Аднак ён палічыў гэта недастатковым і, каб больш трывала ўвайсці ва ўладанне гэтага набытку, ажаніў свайго меншага сына на асірацелай луцкай княжне. Мабыць, у тыя часы сіла спадчыннага права яшчэ брала верх над сілай зброі. Дадайма, што таксама як Альгерд, князь Любарт перад вянчаннем ахрысціўся па праваслаўнаму абраду і атрымаў хрысціянскае імя Дзмітры.

Хрышчэнне і жаніцьба Любарта-Дзмітрыя былі прадуманым, дальнавідным крокам, бо такім чынам гэты Гедымінавіч станавіўся паўнапраўным спадчыннікам князя Андрэя Юр'евіча — праўнука караля Галіцка-Валынскай Русі Данілы Раманавіча. А калі ў 1340 г. ад падсунутай крамольнымі галіцкімі баярамі атруты загінуў князь галіцка-валынскі Баляслаў-Юрый Тройдэнавіч, тады якраз князь луцкі Любарт-Дзмітры станавіўся яго пераемнікам і законным спадчыннікам усяе Галіцка-Валынскай Русі. І ён не замарудзіў пакарыстацца сваім правам, бо ў тым жа годзе смерці свайго швагра (князь Баляслаў-Юрый Тройдэнавіч, як вядома, быў жанаты з княжной Офкай (Яўфіміяй) Гедымінаўнай) бачым яго на княжацкім пасадзе ў старажытным Уладзіміры — сталіцы Валыні.

Ці гэтае спадчыннае права давялося Любарту-Дзмітрыю здзяйсняць пры дапамозе зброі? Відаць, валынскае баярства, спадзеючыся дапамогі ад свайго апекуна, хана Залатой арды Узбека, не спяшалася паддавацца ўладзе Гедымінавіча, і Любарту прыйшлося прасіць дапамогі ў брата Кейстута. Той, сабраўшы загартаванае ў баях з крыжакамі берасцейскае, дарагічынскае ды гарадзенскае рыцарства, ударыў на Уладзімір і дапамог свайму малодшаму брату трывала апанаваць сталіцу і ўсю Валынь. Ці варта дадаваць, як люба было глядзець старому бацьку-князю Гедыміну на гэты прыклад братэрскай салідарнасці паміж яго сынамі?

Мабыць, таксама як Альгерд-Аляксей і Любарт-Дзмітрый быў ажэнены і трэці Гедымінаў сын Нарымунт-Глеб, які ў тым жа часе стаў спадчыннікам князёў пінскіх і апанаваў абшырнае Пінскае княства. Як заўважае аўтар „Хронікі літоўскай і жамойдскай", ён авалодаў: „Пинско зо всеми околичностями над Припетю рекою, аж до Днепра".

Не пакрыўдзіў Гедымін і іншых сыноў. Найстарэйшы з іх, Манвід, атрымаў два княствы: Кернаўскае — радавое гняздо Рынгольдавічаў ды люднае воямі і добра загаспадаранае Слонімскае. Сярэдняму Карыяду-Міхалу дасталася старажытная сталіца Вялікага княства Літоўскага горад Навагрудак і аграмаднае Навагрудскае княства, як чытаем у той жа „Хроніцы": „З Ваўкавыскам і Мсцібавам, якое прасціралася аж да ракі Случ". Самаму меншаму сыну Яўнуту-Івану бацька даў былое Крывагрaдскае княства з новай магутнай крэпасцю Вільняй ды Ашмяншчынай, Вількаміршчынай і Браслаўшчынай.

Як відаць, Гедымін надзяляў сыноў пасадамі не раптоўна, у перадсмяротным завяшчанні, як было ў звычаі ў тадышняй Еўропе. Ён выпасажваў іх паступова, аднаго за другім, сам асабіста ўзводзіў кожнага на вызначаны пасад ды доўга і цярпліва прывучаў да выконвання складаных і нялёгкіх княжацкіх абавязкаў. Пасля ж часта наведваўся да сыноў у гасціну ды пільным бацькоўскім вокам і вухам сачыў за станам іхніх уладанняў, асабістымі паводзінамі, дзейнасцю.

Ці ўдалося яму забяспечыць нашчадкам княжацкую будучыню і дзяржаве адзінства і магутнасць? Пра гэта наступным разам.

**Мікола Гайдук**



 

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### УЯЎЛЕННІ АБ ДУШЫ

Паралельна з уяўленнямі аб душы, выступае ў беларусаў з усходняй Беласточчыны паняцце духа. Многія з вясковых жыхароў як бы не адрозніваюць „душы“ і „духа“ і часта, выказваючыся на гэту тэму, ужываюць адзін або другі тэрмін, надаючы ім аднолькавае значэнне. Такое атаесамліванне праявілася, між іншым, у выказванні Язэпа Самасевіча з вёскі Рыбакі, народжанага каля 1885 года:

„Ты мене пытаеш пра чалавечу душу. Ну, а як жэ ж чалавек мог бы жыці без душы? Та ж чалавек — гэто табе ні жывіна, катора можэ жыці без духа. Ты хочэш ведаць, як выглядае гэта чалавеча душа. Ну, гэтаго то я табе дакладно ні скажу. Магу тут, толькі табе паўтарыць тое, што ў нас калісьціка людзі гаварылі. Ну, а гаварылі, трэба сказаць, па-рознаму. Адны ўвералі, што душа то падобна да клубочка і знаходзіцца ў чалавечым сэрцы. Ну, а другія то казалі, што чалавечы дух то е ў лёгкіх. А былі і такія, што даказвалі, што душа ў чалавечых мазгах. Як дакладна е з гэтаю душою, гэто значыт з духом, то я ні ведаю. Веру толькі, што гэто ў чалавека е. Чом, ты думаеш, кажды звер, навет найсільнейшы, баіцца чалавека? Таму, што чуе, што чалавек мае душу. А чалавечы дух — то вельмі веліка сіла. Ну, а сколь гэта душа ў чалавека берэцца? Хто яго ведае. Ёзыб Казберук кажэ, што ўсё ідзе ад прыроды, а ні ад Бога. Ну, а сколь узялася прырода? Ты сам знаеш, што мы тут за папамі ні прападаем, але я веру, што быў тварэц свету і што ён надзяліў чалавека духам або, як ты кажэш, душою. Ну, але кажды ніхай думае, як хочэ, нікому ў голаў сваіх мазгоў не ўложыш“.

Наогул вясковыя інфарматары згодна сцвярджаюць, што душа не можа аставацца ў мёртвым целе і што пакідае паміраючага разам з апошнім уздыхам. У сувязі з гэтым існуе ў некаторых вёсках забарона нахіляцца над тварам канаючага. У вёсцы Стабераразова па сутнасці да сёння старэйшыя людзі вераць, што ў ніякім выпадку нельга нахіляцца над уміраючым, бо „яго дух пяройдзе ў цела жывога“. Памёршы на працягу цэлага года будзе па начах наведваць такога чалавека з той мэтай, каб забраць ад яго назад свой „дух“. У сувязі з тым, што будзе гэта рабіць у час сну чалавека, дык можа яго задушыць або выклікаць у яго цяжкую хваробу.

Яшчэ не так даўно ў многіх вёсках старэйшыя людзі верылі, што памёршы бачыць і чуе, і таму існавала свайго роду непарушнае правіла, нават калі памёршы быў вельмі дрэнным чалавекам, выказваць аб ім толькі добрыя ацэнкі і меркаванні. Калі б хтосьці з прысутных выказаў аб памёршым адмоўнае меркаванне, дык ён гэта запамятаў бы і пасля на працягу доўгага часу мог бы яму помсціць з таго свету.

„Ты ні думай, што ты ўжэ такі разумны і ўсё лепш ведаеш, чым людзі, — гаворыць народжаная каля 1890 года жыхарка вёскі Бандары Пелагея Бура. — Та я табе скажу, што ты г... знаеш. У нас былі ні такіе, як ты, разумны людзі і я ад іх ні раз чула, што німашука так, каб чалавек узяў і поўнасцю памёр. Ён навет калі і памрэ, то далей і бачыт, і чуе, і толькі гледзіт і слухае, што хто робіт і што гаворыт. І калі толькі хтось на нібожчыка пабрэшэ, то, нібось, ён будзе за ім хадзіць і навет цэлы рок і ўрэшце якуюсьціка шкоду ему зробіт. Ого, з пакойніком то яшчэ ніхто ні выграў. Бо як ты з ім выграеш, калі ты его не бачыш, а ён цябе з усіх бакоў бачыт. Гэто ўсё ад Бога данэ. Гэто Бог дае нібожчыкам такую сілу. Вам, Баршчэўскім, здаецца, што вы вельмі разумны, але і на такіх разумных то е на свеці ўправа. Чалавек — гэто табе ні жывіна, што ўзяла здохла і ўжэ па ўсім. Чалавек поўнасцю ні ўмірае ніколі. Сам не пабачыш, калі скапэрышся. Чом гэто ты да папа не схадзіў? Нібось ён табе хутко ўставіў бы клепку ў мазгі“.

А. Баршчэўскі

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Paszli durnoje, a za im druhoje”, „Niwa” Nr 13 z dn. 29.III.87 r., dotyczącą pracy Klubu Rolnika w Kotłach wyjaśniamy, co następuje:

Ob. Polikatus Mikołaj w klubie był zatrudniony od 1.VI.1978 r. do 31.I.1986 r. W początkowym okresie z powierzonych obowiązków wywiązywał się należycie. W czasie pracy ukończył roczny kurs kulturalno-oświatowy dla gospodarzy klubów.

W ostatnich latach zaczął zaniedbywać swoje obowiązki służbowe. Zarząd zwracał uwagę na nieprawidłowości jakie występowały w jego pracy. Później musiał stosować sankcje służbowe w postaci kar porządkowych, a ostatecznie do zwolnienia z pracy włącznie. Wszystkie udzielone kary były akceptowane przez Zarząd Związków Zawodowych.

Z dniem 30.01.1986 r. na stanowisko gospodarza klubu zatrudniliśmy Ob. Sidoruk Walentynę. Jej kandydaturę akceptowała Rada Sołecka wsi. W ostatnim czasie powtarzają się te same błędy, które występowały u jej poprzednika. Między innymi nie uczestniczy na organizowanych naradach, nie przestrzega godzin pracy. W działalności handlowej dwa razy wyliczyła się z brakiem.

Zarząd w tej sytuacji widzi wymianę Gospodarza Klubu.

Dotychczasowy stan techniczny pieca kaflowego nie pozwala na dalsze jego użytkowanie, w związku z czym zachodziła pilna potrzeba jego remontu. Niewłaściwa eksploatacja pieca doprowadziła do jego uszkodzenia, które zostało na bieżąco usunięte przez wykonawcę.

Bielsk Podlaski, dnia 1987.04.21.
Gminna Spółdzielnia
Samopomoc Chłopska
Zarząd Spółdzielni (podpisy)
M. Pugaczewicz, inż. W. Wiszniewski

*

Odpowiadając na notatkę E. Wojskowicza „Chwarej i nie laczysia” (Niwa” Nr 10/1608 z dn. 8.03.87 r.) uprzejmie informuję, że wniosek o wygospodarowanie stosownego pomieszczenia na organizację punktu aptecznego na os. 40-Lecia został skierowany do Spółdzielni Mieszkaniowej w Hajnówce.

Zastępca Naczelnika Miasta
Hajnówki
mgr Jadwiga Rudzińska-Patejuk

### ПРЫКАЗКІ

Колькі вутцы ні мудрыць, а за лебедзем ёй не быць.

*

Любіў рак жабу, аж вочы выеў.

## Усё з бульбы

### БУЛЬБЯНОЕ ПЮРЭ ЗАПЕЧАНАЕ
(4 порцыі)

Зварыце 10 бульбін, стаўчыце, дабаўце шклянку малака, 2 сталовыя лыжкі сметанковага масла, 2 яйкі. Прыгатаванае бульбяное пюрэ вылажыце на змазаную маслам патэльню, заліце смятанай ці сумессю яек са смятанай і пастаўце ў духоўку для запячэння. Пры падачы на стол паліце дзвюма лыжкамі сметанковага масла і пасыпце нарэзанай зяленінай.

### ВАРЭНІКІ З БУЛЬБАЙ
(4 порцыі)

Вазьміце 200 г пшанічнай мукі, яйка, 1/4 шклянкі вады, соль, замясіце крутое цеста і пакіньце яго на 30-40 хвілін. Затым падрыхтуйце фарш: зварыце 4 абабраныя бульбіны, пратрыце гарачымі, пасаліце і змяшайце з падсмажанай 1/2 цыбулінай са сталовай лыжкай алею. Гатовае цеста раскачайце ў пласт таўшчынёю 2 мм. Край раскачанага пласта (5-6 см) змажце яйкам, разведзеным невялікай колькасцю вады. Пакладзіце радамі шарыкі з фаршу на адлегласці 3-4 см адзін ад аднаго. Затым край змазанай паласы цеста прыўзнïміце, накрыйце ім фарш, пасля чаго выразайце варэнікі спецыяльнай формачкай.

Калі закіпіць вада, пасаліце і апусціце варэнікі. Гатовыя варэнікі ўсплываюць наверх. Пры падачы на стол варэнікі паліць 2 сталовымі лыжкамі сметанковага масла ці паўшклянкай смятаны.

### БУЛЬБЯНАЯ БАБКА
(4 порцыі)

Натрыце 16 бульбін, палажыце 2 чайныя лыжкі мукі, перац, падсмажце 2 цыбуліны з 50 г саланіны, пасаліце і ўсё перамяшайце. Палажыце ў каструлю ці глыбокую патэльню, змазаную тлушчам, і пастаўце ў духоўку ці печ для запякання. Гатовую бабку ешчэ гарачай, паліўшы 2 лыжкамі сметанковага масла.

### ГАЛУБЦЫ З БУЛЬБАЙ
(4 порцыі)

Галоўку капусты (800 г) ачысціце, выражце ў ёй качан і зварыце ў падсоленай вадзе да паўгатоўнасці. Потым разбярыце яе на лісце. Прыгатуйце фарш: пратрыце 4-5 звараных бульбін, змяшайце з падсмажанай на масле цыбулінай і яйкам, укіньце солі да смаку. На прыгатаванае лісце капусты палажыце фарш і загарніце ў выглядзе канвертаў. Галубцы абсмажце і складзіце ў малую каструлю з шырокім дном ці качачніцу, заліце смятанным соусам (400 г) і таматам. Тушыце 30-40 хвілін.

### САПЕРНІЦА МЕСЯЦА

У 1989 годзе Францыя адсвяткуе 100-годдзе Эйфелевай вежы. З гэтага ж года закаханыя парачкі змогуць любавацца незвычайным зззяннем, якое будзе ліцца з нябёс.

Справа ў тым, што арганізатары ўрачыстасцей маюць намер адзначыць юбілей шэдэўра зямной архітэктуры, які адкрыў новую эпоху ў сусветным дойлідстве стварэннем першага шэдэўра архітэктуры касмічнай. На калязямную арбіту з дапамогай еўрапейскай ракеты „Арыян“ будзе выведзена гіганцкае гумавае кальцо дыяметрам 7,5 кіламетра, забяспечанае спецыяльнымі адбівальнікамі. Даставіць яго туды плануецца ў згорнутым выглядзе — „пакет“ вагой паўтоны будзе аб'ёмам менш аднаго кубаметра. На арбіце промні сонца выпараць вільгаць унутры кальца, прымусіўшы яго надзьмуцца. На працягу трох гадоў гэта канструкцыя будзе вісець над Зямлёй.

## СОННІК

73

**Наадварот** рабіць што-небудзь — няўдачны намер.

**Набажэнства** — запачаткаванае закончыцца добрым вынікам.

**Набожным** быць — глядзі спакойна ў будучыню.

**Набрыняць** — хвароба.

**Набытак** — прыемная прыкмета.

**Навальніца** — не трэба траціць надзеі, змены на лепшае.

**Наведанне** — непрыемная, благая папулярнасць, вядомасць; наведаць іншых — прыкрая несправядлівасць.

**Навіны** пачуць — адваротнае таго, што сніцца.

**Навука** — будзеш мець дачыненні з высокапастаўленымі людзьмі; карыстацца ёю — захавай самастойнасць.

**Нага** напухшая — страта і шкода; цэлая і здаровая — радасць і шчасце; тонкая і хворая — здрада сяброў, страта каханай асобы; вялікая і няўклюдная — гуллівае жыццё; малая — шчаслівае сямейнае жыццё; зламаць ногі — паўстрымлівай свае пачуцці; мыць ногі — будзь стрыманым, хваробы і розныя пакуты; упасці на ногі — зносіны з нецікавым чалавекам; крывыя — шчасце; драўляныя — цябе ашукаюць.

**Нагавіцы** — расчараванне; каляровыя — сорам; белыя — жыццё ў раскошы; падзёртыя — занядбоўваеш абавязкі; апранаць — пакуты; латаць — грашовыя нястачы і клопаты.

**Надмагільны** помнік — прыемныя ўспаміны; уласны — засмучанне з прычыны парванай дружбы; надпісы на ім чытаць — страціш сябра.

**Надпісы** чытаць — страта грошай.

**Накарміць** — радасная звестка.

**Намаўляць** каго-небудзь — выйгрыш.

**Напад** — беражы свой гонар; напалі на цябе — непрыемныя звесткі.

**Напамінаць** — не зразумеюць твае добрыя намеры.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Ніл Гілевіч

## НАША МАТУЛЬКА

(з К. Вялічкава)

Ад калыскі-люлькі ўтульнай
Дзень і ноч —
па гэты час —
Наша мілая матулька
Клапацілася пра нас.

Малаком усмак паіла,
Укладала песняй спаць,
Роднай моваю
вучыла
Словы добрыя казаць.

Калі ж быў хто часам хворы —
Захліпалася ад слёз,
Не змыкала воч у горы,
Сцерагла дзіцячы лёс.

Як балюча засмучала
Маму нашая віна!
Як усцешана бывала
Нашай радасцю яна!

А не хоча ўзнагароды,
І ўсяго,
што трэба ёй, —
Каб любілі мы заўсёды
Шчырым сэрцам і душой.

## ПАБУДЗІ, МАТУЛЬКА

(паводле Ц. Царкоўскага)

Пабудзі, матулька,
Мяне рана ўранку,
Як жаўрук зальецца
Песняй на світанку.

Я хачу пабачыць
Сонца ўсход ружовы
Я хачу паслухаць
Бомы жаўруковы.

Ад усмешкі сонца
Сам я засмяюся,
Ад вясёлых бомаў
Сам развесялюся.

Сам у поле з песняй
Выбегу за брамку...
Пабудзі ж, матулька,
Мяне рана ўранку!



Многа ласкавых слоў я для Мамы знайду, хай ім утораць і поле, і рэчка. Усю любоў сваю ў песню ўпляту і пакіну іх Маме навечна!



Яраслаў, вучань другога класа з гайнаўскай школы № 1 вельмі хоча хадзіць на ўрокі беларускай мовы, але бацькі не пускаюць. Фота Я. Чэрнякевіч

БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Авяр'ян Дзеружынскі

## БУСЛЫ

А мы буслы
Белыя,
А мы птушкі
Смелыя.
Клё-ка, клё-ка,
Стук ды стук,
Вынішчаем мы
Гадзюк.
Па балотах,
Між чаротаў,
Ходзім-тупаем
Без ботаў.
Нібы шпагі,
Нашы дзюбы —
Не ўцячэ змяя
Ад згубы!
А мы буслы
Белыя,
А мы птушкі
Смелыя.
Клё-ка, клё-ка,
Клё-ка, клё-ка,
Адлятаем
Мы далёка!



Станіслаў Шушкевіч

## КУРАНЯЧАЕ ГОРА

На шырокім выгане
Спрытнае цялятка
Шыйку стройна выгнула,
Бегае за маткай.

З маткаю бадзёрай
Ходзяць парасяткі,
Іх ажно чацвёра,
Шустрыя блізняткі.

Сумныя, уздыхаюць
Побач куранятки,
Бо яны не маюць
Свае роднай маткі.

Дом іх — інкубатар
За высокай брамай.
І няма ў іх таты,
І няма ў іх мамы.



# ЦЭГЛА

Цялятнік будавалі не вельмі далёка ад вёскі. Сонца хілілася на захад, рабочыя сабралі інструменты, пайшлі дамоў. А я застаўся, каб без сведак нешта прыхапіць з сабой. Але што возьмеш на будоўлі, якая толькі пачалася? „Вазьму хоць некалькі цаглін, — падумаў. — Хай будзе ў запасе. Можа, печ падрамантую".

Выбраў шэсць цаглін і панёс. Спачатку падалося лёгка, нават пашкадаваў, што мала ўзяў. Але хутка рукі знямелі, ногі пачалі трымцець.

А тут яшчэ дарога запыліла наперадзе, нехта едзе. Кінуўся я ў хмызняк. Спакаў крыху, потым падыбаў далей са сваёй цэглай. Бачу, брыгадзір едзе. Кінуўся ўбок з перапуду, можа, больш за кіламетр кругаля дау...

Дапаў, нарэшце, да свайго двара. Расчапіў знямелыя рукі... З грукатам пасыпалася цэгла на зямлю, пабіўшыся на дробныя кавалкі.

Усё-такі дрэнную цэглу выпускае наш завод...

**Васіль Ферaнц**

# ВАВЁРКА Ў КОЛЕ

Вавёрка, што ў бары з арэшкамі гуляла,
Вядомай раптам стала:
Яе злавілі, пасадзілі ў кола —
І разявак ураз
Сабралася надзвычай шмат наўкола.
Адзін заўважыў зухавата:
— Вось у каго рухавасці багата!..
Другі раз-пораз паўтарае:
— Што, гляньце, людзі, вытварае!

Яе і цукрам, і арэхамі частуюць...
Хоць кола круціцца ўпустую.

**Іван Нячаеў**



Карыснае з прыемным.

# НІЎКА



Як параджаецца мода.

### АБОЕ РАБОЕ

— Кожны раз, як атрымаю пісьмо ад сына, мушу на дапамогу браць слоўнік.

— А мне яшчэ горш. Кожны раз, як атрымаю пісьмо ад дачкі, даводзіцца дапамагаць ашчаднай кніжкай.

### ВОСЬ ДЫК ЗАДАЧА

Маленькі Саша прыбег да бабулі.

— Бабуля, родненькая, схавай мяне ад мамы.

— Навошта?

— Каб мяне назад у магазін не вярнула, бо яна сказала, што я дрэнны хлопчык.

### АКУЛЯРЫ

— О, у цябе новыя акуляры? Ну як, цяпер лепш бачыш?

— Зразумела. Цяпер я налятаю на людзей, якіх раней наогул не прыкмячаў!

### НЯМА ДОМА

Прыйшоў задрыпанец п'яны, а жонка і кажа:

— Іван, нарубай дроў, бо няма чым есці зварыць!

— А ты лічы, што мяне няма дома, — адказаў задрыпанец і пайшоў спаць.

Прачнуўся гаспадар раніцай:

— Давай, жонка, снедаць.

— А я лічыла, што цябе няма дома, і нічога не варыла, — адказала жонка.

Made in Zadrypanka

Для адначасовай варкі дзвюх страў.



**Графаман цешыў сябе думкай, што ніводзін з вялікіх не напісаў бы так, як ён.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Куды гэта вы, суседка, так спяшаецеся?

— Абед нясу мужу.

— Дык ён працуе кухарам дыэтычнай сталоўкі.

— Яно так, але ж у яго хворы страўнік...

*

Трое — лекар, архітэкт і палітык — паспрачаліся, чыя прафесія старэйшая.

— Зразумела, мая, — сказаў лекар. — Бог стварыў Еву з рабра Адама: у наяўнасці хірургічная аперацыя.

Архітэктар сказаў:

— Вядома, мая прафесія найстарэйшая: Бог, як і кожны архітэктар, ствараючы свет, стварыў яго з хаасу.

— А хто стварыў хаас? — спытаў палітык.

*

Наведвальнік афіцыянту:

— Дазвольце, а чаму вы ўзялі з мяне 15 марак замест 13 па рахунку?

— Выбачайце, я падумаў, што вы забабонны...

*



— Значыць, вы хочаце падаць на развод. А хто гэты шчаслівец?

З „Весніка Задрыпоніі"

### НОВАЕ Ў СЭРВІСЕ

У рэстаране „Залаты рог" марудна абслугоўвалі наведвальнікаў. Адміністрацыя рэстарана вырашыла пайсці ім насустрач і перайменаваць абедзенную залу ў залу чакання.

### ІХ НОРАВЫ

Англійскія прафесіянальныя футбалісты гуляюць, не шкадуючы сіл, змагаюцца за мяч да канца ў кожным матчы. Вось да чаго можа давесці гульня за грошы.



**Афарызмы ў дыялогах**

### САМААХВЯРНАСЦЬ

— О, цудоўная Эмоцыя! Тваё жыццё ўзнёслае, як мара, і прыгожае, як рай! — сыпаў кампліментамі халодны Рацыяналізм.

— Так было, пакуль ты не дабраўся да раю і не знішчыў маю мару, — адказала зіхатлівая Эмоцыя. — Маё жыццё канчаецца там, дзе пачынаецца тваё... Але я ганаруся гэтым, бо ведаю — без Эмоцый не было б і цябе, халодны Рацыяналізм.

**Савелій Паўлаў**

### НА ТАНЦАХ

Юнак кажа дзяўчыне:

— Калі я з вамі танцую, то мне здаецца, што я нібы ў пустыні і навокал нікога няма.

— Так, — згадзілася яна, — вы сапраўды танцуеце, як вярблюд.





# Курёзы

### ПАЛЯВАННЕ... НА ГАЛУБОЎ

Муніцыпалітэт Ратэрдама выдзеліў сродкі на засnаванне пасады птушкалова. Яго задача — у бліжэйшыя восем гадоў на тры чвэрці скараціць папуляцыю галубоў у горадзе. Цяпер іх налічваецца больш за сто тысяч. Гэта мера стала зусім неабходнай з-за катастрафічнага павелічэння „галубінага насельніцтва" ў апошнія пяцігоддзе. Ратэрдамцы скардзяцца на тое, што гэтыя птушкі забруджваюць не толькі гарышчы, але і балконы, перашкаджаюць адпачываць у вулічных кафэ, пэцкаюць адзенне і часам у поўным сэнсе слова пікіруюць на любую ежу — у руках яна або ў сумцы. Аднак будзе рабіцца раніцай — да выхаду з дамоў асноўнай масы гараджан — пры дапамозе спецыяльных пастак і сетак. За адзін раз сетка можа „накрыць" трыццатыры дзесяткі галубоў. Усе хворыя птушкі (а іх, паводле сцвярджэння арнітолагаў, 75-80 працэнтаў ад агульнай колькасці) будуць знішчацца. Астатніх або зноў выпусцяць на волю, або будуць перасяляць у сельскую мясцовасць. Ратэрдам — другі пасля Амстэрдама горад Галандыі, у якім вырашана ўсур'ёз узяцца за „галубіную праблему".




**Найстарэйшыя сцэны — сцэны Бяздушнасці.**